Выдавец:
Прыватнае прадпрыемства «Дарога на Вільню плюс», пасв. №391053932, выд. 12.10. 2009 г. Глыбоцкім РВК.
Перыядычнасць – 1 раз на тыдзень, дзень выхаду – чацвер.

Штотыднёвая газета

vglybokaye@tut.by

# Вольнае Глыбокае

Выдаецца са снежня 1994 года | 13 (521) 1 красавіка 2010 года | Кошт **свабодны**



Вы можаце падаць сваю прыватную абвестку і па **хатняму** тэлефону на нумар 166. **Кругласутачна.** Выразна назавіце назоў газеты. У дадзеным выпадку – "Вольнае Глыбокае".

Кошт абвесткі аб'ёмам да 5 слоў – 2500 рублёў. Кожнае далейшае дадатковае слова – 300 рублёў.

Абвестка тлустым шрыфтом да 5 слоў – 3000 рублёў. Кожнае далейшае дадатковае слова – 400 рублёў.

Між тым, парадак прыёму прыватных абвестак у месцах продажу нашай газеты – нязменны.

**абвесткі з хатняга тэлефона ў «ВГ»** — нумар **166** дзённа й ночна

# Ïîáà÷ ç ìàñòîì ïðàç Äçâ³íó ¢ Íàâàïîëàöêó ïðàäó÷àë³ âûáóõ³



**Наваполацкія выратавальнікі і сапёры зрабілі падрыў лёду каля наваполацкага маста праз Заходнюю Дзвіну.**

Вада ў Дзвіне ўжо дасягнула адзнакі ў чатыры метры і працягвае паднімацца прыкладна па метру ў суткі. 10,5 метра - гэта верхняя дапушчальная мяжа ўзроўню вады. Калі вада паднімецца вышэй, то прыйдзецца эвакуіраваць жыхароў вёсак Падкасельцы і Шніткі.

«Дапамагчы» гэтаму могуць і ледзяныя заторы, якія звычайна ўтвараюцца каля мастоў і на заваротках рэк. Улічваючы, што сёлета лёд - амаль метровай таўшчыні, а таксама тыя факты, што апоры наваполацкага маста вельмі шырокія і стаіць ён адразу за паваротам, затор можа быць вельмі вялікім - ён можа дадаць яшчэ пару метраў да паводкавага ўздыму вады.

У 2004 годзе падобны затор расцягнуўся ад Наваполацка на 40 кіламетраў. Сёлета вырашылі не чакаць крыгаходу і загадзя вызваліць праблемныя ўчасткі ад лёду. І пачалі з самага праблемнага наваполацкага ўчастка.

Для таго, каб падарваць лёд на 200-метровым участку каля маста ў Наваполацку спатрэбілася прасвідраваць сотню лунак і ў кожную закласці па 800 грамаў траціла.

# Ðýã³ÿíàëüíûõ ê³ðà¢í³êî¢ áóäóöü êàðàöü çà äýìàãðàô³þ?

■ Марына Паўлава

**Працу органаў мясцовай улады трэба ацэньваць зыходзячы з таго, як у рэгіёне выконваецца праграма дэмаграфічнай бяспекі, заявіў на паседжанні аблвыканкама Аляксандр Косінец.**

У цэлым губернатар незадаволены рэалізацыяй праграмы дэмаграфічнай бяспекі на Віцебшчыне. Ён адзначыў, што займацца гэтым павінны не толькі органы аховы здароўя, але і МУС, установы адукацыі, прамысловыя прадпрыемствы, аграпрамысловы комплекс, кіраўнікі раёнаў, прадпрыемстваў, дэпутаты. Не выключана, што за невыкананне праграмы дэмаграфічнай бяспекі на службоўцаў і кіраўнікоў будуць накладвацца спагнанні.

# Ó Ïîëàöê³ì ðà¸íå àäçíà÷àíû òðûõ³íåë¸ç

**Акрамя Полацкага раёна, трыхінелёз адзначаны ў Лепельскім і Пастаўскім, а таксама ў Віцебску. А вялікая частка выпадкаў - 14 - зарэгістраваны ў Гарадокскім раёне.**

Чыннікам стала ўжыванне сыравяленай каўбасы з мяса дзіка, якое не прайшло ветэрынарную санітарную экспертызу. Як паведамляе «Народнае слова», трыхінелёз - гэта хвароба чалавека і жывёл, якая выклікаецца паразітамі. Заражэнне адбываецца, як правіла, пры ўжыванні ў ежу мясных прадуктаў (сыравяленай дамашняй каўбасы, кумпяка, шашлыка, смажанага мяса). Трыхінелы добра пераносяць вэнджанне, смажанне, варэнне, апрацоўку ў мікрахвалевай печы і замарожванне. Гінуць пры варэнні (на працягу 2,5 гадзіны) у кавалках мяса таўшчынёй не больш за 8 сантыметраў.

Час уздыму захворванняў - да красавіка. У хворых з’яўляюцца скурныя высыпанні, ліхаманка, ацёк твару, мышачныя болі. А самыя цяжкія ўскладненні - гэта паражэнне сардэчна-сасудзістай і нервовай сістэм, лёгкіх.

Асноўнае правіла, каб не захварэць, - пасля ўбойнай экспертызы туш жывёл, якія з’яўляюцца аб’ектамі паляўнічай здабычы. Трыхінелаhalf-скапічная экспертыза праводзіцца ветэрынарнай службай мясакамбінатаў, рынкаў, гарадскіх і раённых ветэрынарных устаноў.

Ïàñòàâñê³ ðà¸í

# Ïàì¸ð ïàýò, à âåðøû æûâóöü

■ Кастусь Александровіч

**Чамусьці так складваецца ў свеце, што ўсё часцей цяпер многія таленавітыя і добрыя людзі-творцы ў росквіце сіл завяршаюць свой зямны шлях.**

Год назад у Паставах развіталіся з сапраўдным паэтам і літаратарам , настаўнікам беларускай мовы СШ № 1 Леанідам Трубачом. Гэтага светлага чалавека ва ўзросце 46 гадоў літаральна за некалькі месяцаў скасіла цяжкая невылечная хвароба. Магчыма, такая бяда прыйшла ад таго, што ён пісаў душой цудоўныя вершы і вельмі перажываў перад гэтым з прычыны хваробы, а потым і смерці сваёй мамы. На ягонае пахаванне летась сабраліся сотні людзей, якіх узрушыў ранні зыход з жыцця шчырага беларуса, сапраўднага творчага настаўніка з вялікай літары. Сябры па вучобе на філалагічным факультэце Белдзяржуніверсітэта і калегі захавалі памяць пра руплiўца роднай мовы. Яны сабралі сродкі для выдання пасмяротнай кнігі вершаў і сцэнарыяў школьных вечароў Леаніда Трубача “Паміж песняй і болем”. Гэта выданне пабачыла свет у сталічным выдавецтве “Кнігазбор”. Напярэдадні гадавіны смерці творцы ў ягонай роднай школе, якую ён закончыў, адбылася прэзентацыя кнігі. Усе, хто ўшанаваў і памятае паэта, пасля вечарыны пражылі моцныя і ўзвышаныя пачуцці.

Ãëûáîöê³ ðà¸í

# Ïàä áîêàì ó ã³ãàíòà

■Станіслаў Раманчук

**Далёка за межамі вобласці вядома высокая якасць прадукцыі аднаго з буйнейшых у Беларусі, ордэна Знак Пашаны Глыбоцкага мясакамбіната.**

Сёлета тут прадоўжыцца праца па завяршэнню ўзвядзення яшчэ аднаго мясаперапрацоўчага цэха-доўгабуда. З дапамогай гэтага старэйшага прадпрыемства галіны, адкрытага яшчэ за польскім часам, апошнім часам палепшылася “эканамічнае здароўе” і сельгаскааператыва “Галубічы”. Гэта гаспадарка стала сельскагаспадарчым філіялам камбіната і атрымала ад глыбачан важкую дапамогу па набыццю тэхнікі, па аднаўленню зношанай матэрыяльна-тэхнічнай базы. Мясаперапрацоўшчыкі пасля далучэння да іх калгаса дапамаглі вяскоўцам набыць таксама высокапрадуктыўных кароў, пагалоўе статку павялічылася амаль у 2 разы. У параўнанні з перыядам крызіса выраслі ў працаўнікоў сельгасфіліяла аб’ёмы прадукцыі і заробкі амаль у тры разы. Пры дапамозе сваіх партнёраў з горада, занялiся вяскоўцы і новай для сябе справай, сталі вырошчваць коней. У вёсцы Каралевічы ў бліжэйшы час павінна завяршыцца будаўніцтва другой па ліку канюшні і коннага манежу. Працягнуўшы руку дапамогі сельскім жыхарам, калектыў камбіната з пачатку стагоддзя паспяхова ўклаў таксама 12 млрд. рублёў і на тэхпераўзбраенне ўласнай вытворчасці.

Ì¸ðñê³ ðà¸í

# Âûðó÷àå ãàñïàäàðñê³ ïàäûõîä

■Чэслаў Якубовіч

**У наш час трэба не скардзіцца на існуючыя цяжкасці, а актыўна шукаць нестандартныя падыходы, каб лепей жыць.**

Менавіта так дзейнічаюць апошнім часам у калектыве Мёрскага райкамунгаса. Тут, каб меней залежыць ад дзярждатацый, сталі аказваць насельніцтву дадатковыя патрэбныя паслугі. Яшчэ летась у самым маленькім горадзе краіны Дзісне камунальшчыкі адкрылі свой цэх па вытворчасці тратуарнай пліткі і бардзюраў магутнасцю да 12 кв. метраў у змену. У гэтым годзе ўжо ў райцэнтры камунгас запусціў уласны дрэваапрацоўчы цэх. Задавальняючы ўласныя патрэбы, выконваюць і заказы жыхароў на розныя піламатэрыялы. На ўзятым у арэнду маляўнічым возеры ля вёскі Перабраддзе з’явіцца да сезону адпачынку ўласная зона адпачынку з некалькіх драўляных добраўпарадкаваных домікаў. Увогуле тут вырашылі ў закінутай калгаснай майстэрні пачаць вырабляць такія дачныя домікі, зрубы, рабіць вагонку і абшыўку. Дзякуючы дадатковым даходам, парк неабходнай тэхнікі давялі да 52 адзінак і сталі абыходзіцца без супрацоўніцтва з іншымі арганізацыямі. Самае галоўнае, заробкі работнікаў удалося падняць амаль да 300 долараў у месяц. Акрамя ўсяго, прадпрыемства мае ліцэнзіі на правядзенне будаўніча-мантажных работ, замену сетак камунікацый і стала адным з лепшых на Віцебшчыне.

## Íàäâîð'å ¢ Ãëûáîê³ì

www.rp5.ru

| | чацвер 01.04.10 | | | | пятн.02.04.10 | | | суб. 03.04.10 | | нядз.04.04.10 | | 05.04. |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мясцовы час | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 03:00 | 15:00 | 03:00 | 15:00 | 03:00 |
| Хмарнасць | | | | | | | | | | | | |
| Ападкі | | | | | | | | | | | | |
| Тэмпература, °С | +6 | +7 | +12 | +8 | +6 | +6 | +8 | +5 | +7 | +4 | +9 | +3 |
| Ціск, мм | 743 | 743 | 744 | 744 | 744 | 745 | 745 | 745 | 747 | 749 | 751 | 747 |
| Вільготнасць, % | 86 | 87 | 66 | 82 | 91 | 97 | 91 | 95 | 88 | 94 | - | - |
| Вецер м/сек | Ю-В 7 | Ю-В 8 | Ю-В 9 | Ю-В 6 | Ю-В 5 | Ю-В 6 | Ю-В 7 | Ю-В 3 | Ю 3 | Ю 2 | Ю-В 5 | Ю-В 4 |

## Äçåíü çà äí¸ì

**У параўнанні з мінулым годам (5,3 %) рост цэн у Беларусі зменшыўся і склаў сёлета зімой 1,3 %, але рэальныя заробкі і пенсіі знізіліся. Сярэдняя зарплата па краіне дасягнула 1 млн. рублёў, аднак некалькі мільёнаў беларусаў аб такіх даходах могуць толькі марыць. На фоне паставак нафты з далёкай Венесуэлы Расія стала ўвязваць пытанне адмены льготных паставак энерганосьбітаў з увядзеннем адзінай валюты. Пакуль саюзнікі не могуць дамовіцца ў гэтым стратэгічным пытанні з-за прынцыповых рознагалоссяў, Масква не збіраецца адмяняць для нас мытныя пошліны на нафту.**

## Âàæíåéøûÿ íàâ³íû ñâåòó

***ЗША.*** Кангрэс ЗША падтрымаў медыцынскую рэформу прэзідэнта Б. Адамы, цяпер медстрахоўку будуць мець яшчэ 32 млн. амерыканцаў, якія не мелі такі дакумент.

***Афганістан.*** Група дэпутатаў узняла ў парламенце пытанне аб запатрабаванні ад Расіі матэрыяльнай кампенсацыі за 10-гадовую акупацыю краіны савецкімі войскамі.

***Венесуэла.*** У абмен на нафту краіна атрымае з Беларусі навейшую ваенную комплексную сістэму абароны з радараў, зенітна-ракетных комплексаў, сродкаў электроннай барацьбы.

***Грэцыя.*** З мэтай скарачэння дэфіцыту дзяржбюджэта ўрад краіны павялічыў акцызы на тытунь і алкаголь, падаткі на прадметы раскошы, замарозіў рост пенсій і прэміяльных.

***КНДР.*** Улады самай закрытай і галоднай краіны свету пакаралі смерцю 77-гадовага главу дзяржплана за правал грашовай рэформы, калі ў карэйцаў рыс падаражэў у 70 разоў.

***Расія.*** Бліжнеўсходні квартэт (РФ, ЗША, ААН і ЕС) у Маскве даў 2 гады Ізраілю і Палесціне на заключэнне дамовы аб стварэнні незалежнай палесцінскай дзяржавы.

***Славенія.*** Нефармальны саміт Балканскіх краін назваў сваім галоўным прыярытэтам уступленне ў ЕС, на ўваходжанне прэтэндуюць Харватыя, Албанія, Боснія і Герцагавіна.

***Францыя.*** Правячая правацэнтрысцкая партыя прэзідэнта Н. Сарказі пацярпела зруйнавальнае паражэнне на выбарах мясцовых органаў уладаў, перамаглі сацыялісты.

***Венесуэла.*** Толькі ў маі краіна паставіць Беларусі праз порт Адэсы пробную партыю сваёй нафты аб'ёмам да 80 тыс. тон для НПЗ Мазыра, але парты Прыбалтыкі больш бліжэйшыя.

***ЗША.*** Прэзідэнт Барак Абама раздаў усю атрыманую ім Нобелеўскую прэмію міра ў суме 1,4 млн. USD на дабрачынныя мэты, шпіталям для ветэранаў, пацярпелым на Гаіці.

***Германія.*** Канцлер Ангела Меркель выступіла за выключэнне з зоны еўра тых краін, якія будуць груба парушаць агульныя правілы дзейнасці гэтага фінансавага саюза ЕС.

***Украіна.*** Новы склад Кабміна на чале з М. Азаравым назвалі "урадам-камікадзе" з-за неабходнасці правесці крайне непапулярныя рэформы, скараціць на 1/3 бюджэт краіны.

***Азербайджан.*** Правячы клан сям'і Аліевых купіў адрасу 9 шыкоўных асабнякоў на беразе мора ў Дубаі за 44 млн. USD, кіраўнік гэтай краіны мае зарплату 228 тысяч USD у год.

***Японія.*** Кампанія NTT DoCoMo распрацавала "разумны" мабільны тэлефон IP-тэхналогіі, які адчувае набліжэнне ўладальніка і рэагуе на дотык чалавека, на яго каманды голасам.

***ЗША.*** Знакаміты майстар Галівуда Мел Гібсан заявіў, што развітаецца з кінарэжысурай пасля заканчэння здымак праекта сагі аб вікінгах з Леанарда Дзі Капрыо ў галоўнай ролі.

## Ïàäçå³, ïðà ÿê³ÿ ãàâîðûöü Áåëàðóñü

***Мінск.*** За апошнія 15 гадоў у Беларусі, як заявіў міністр аховы здароўя В. Жарко, аб'ём продажу алкаголю на адну душу павялічыўся з 6,7 да 12 літраў у пераліку на чысты спірт.

***Навагрудак.*** Першымі на Гродзеншчыне выратавальнікі правялі серыю выбухаў лёду на рацэ Нёман, узрывалі лёд па заяўках таксама ў Іўеўскім, Мастоўскім, Лідскім раёнах.

***Мінск.*** На прадстаячых выбарах мясцовых Саветаў на мандат дэпутата конкурс будзе па краіне невысокі, усяго 1,2 чалавекі на месца, выключэннем стала сталіца 5,4 на месца.

***Заслаўе.*** Пасля заліцця разводдзем падстанцыі і кароткага замыкання без свету засталіся інкубатар і 8 птушнікаў племптушказавода "Беларускі", дзе цудам не было страт пагалоўя.

***Брэст.*** Расійскі прэм'ер У. Пуцін вобразна параўнаў пазіцыю Беларусі ў пытанні па неабходнасці прызнання Абхазіі і Асеціі з пазіцыяй Кісы Вараб'янінa: "торг неуместен".

***Мінск.*** Упершыню ў гісторыі Беларусі амаль 6 га зямлі ў цэнтры сталіцы з набярэжнай ракі прадалі за 10 млн. USD у прыватную ўласнасць заможнай фірме з Султаната Аман.

***Гомель.*** Услед за сталіцай мабільная кампанія Velkom запусціла тут сетку хуткіх перадач дадзеных стандарта 3G, уключаючы відэазванкі і іншы відэасэрвіс для сваіх абанентаў.

***Мінск.*** Нават на ЗАТ "Атлант" знос асноўных фондаў прадпрыемства дасягнуў 40 %, хоць яно траціць штогод па 65 млрд. рублёў на мадэрнізацыю вытворчасці сваіх трох заводаў.

***Баранавічы.*** У горадзе распачалі першую сёлета на Брэстчыне крымінальную справу за спойванне 17-гадовай дачкі не непрацуючай 44-гадовай маці, ёй пагражае да 5 гадоў.

***Мінск.*** Станцыі метро "Плошча Леніна" вернуць назву "Плошча Незалежнасці", у сталіцы шэраг вуліц атрымалі свае спрадвечныя гістарычныя назвы замест савецкіх.

***Навагрудак.*** Тут пачалі рыхтавацца да V фестываля сярэдневекавой культуры 25-27 чэрвеня, прысвечанага 600-годдзю Грунвальдскай бітвы з удзелам 10 клубаў рыцараў.

***Мінск.*** У рэжыме сакрэтнасці пачалася праца сумеснай урадавай камісіі Польшчы і Беларусі па вырашэнню праблем польскай меншасці ў РБ, Варшава цвёрда стаіць на сваім.

***Хойнікі.*** На радзіме Івана Мележа да XVII Дня беларускага пісьменства ў райцэнтры з'явяцца скульптурная кампазіцыі герояў яго славутых твораў, адкрыецца музей.

***Пінск.*** З-за ўспышкі вострай кішэчнай інфекцыі прыйшлося часова закрыць дзэтсад №29, там захварэлі пасля кармлення тваражком і атравіліся 86 дзяцей і 3 выхавальнікі.

***Мінск.*** Група тэлеканала АНТ "3+2" ад Беларусі за два месяцы да конкурса песні "Еўрабачанне-2010" нечакана памяняла песню для свайго выступлення 25 мая ў Осла.

## Ïàíàðàìà ¢íóòðûàáëàñíûõ ïàäçåé

***Талачын.*** З пачатку года адразу 7 прамысловых прадпрыемстваў раёна знізілі выпуск прадукцыі, спад пачаўся яшчэ летась, тут не выканалі 9 з 14 прагнозных паказчыкаў.

***Віцебск.*** Пад гандлёвым брэндам "Брава" фірма "Марка" пачне летам выпуск высокаякаснага скуранога абутку сумесна з італьянцамі, у праект укладзена 15 млн. EUR.

***Орша.*** У пачатку вясны запасы льновалакна на льнокамбінаце складалі амаль 15 тыс. тон, што раўнацэнна гадавому аб'ёму вытворчасці буйнейшага ў Еўропе прадпрыемства.

***Полацк.*** У мясцовым дзяржуніверсітэце адкрываюць набор на новыя спецыяльнасці: "аўтамабільныя дарогі", "электразабеспячэнне", раней гэтаму ў ВНУ не вучылі.

***Шаркаўшчына.*** З-за адсутнасці плацёжаздольных людзей у райцэнтры, як і ў Расонах, не могуць стварыць ЖБК для будаўніцтва новага шматкватэрнага жылога дома.

***Віцебск.*** Пасля вызвалення з пірацкага палону працягласцю 130 дзён дамоў вярнуўся капітан захопленага піратамі судна Сяргей Харлан, яму патрэбна аперацыя левага пляча.

***Верхнядзвінск.*** У вёсцы Сара на дарозе пад коламі грузавіка "Урал-4320" ад атрыманых траўм загінула днём 9-гадовая школьніца, якая нечакана выбегла на праезную частку.

***Полацк.*** На плошчы Свабоды ваеннай часці МУС Беларусі 5530 архіепіскап Полацкі і Глыбоцкі Феадосій уручыў духоўны сцяг, харугву ў гонар абраза Казанскай Божай Маці.

***Лепель.*** На аўтатрасе Мінск-Віцебск паблізу райцэнтра і вёскі Старое Лядно сёлета адкрыюцца 2 прыватныя кафэ, на ёй працуюць 2 прыватныя аўтастаянкі з СТА, гатэлем.

***Віцебск.*** У Генпракуратуру Расіі перадалі матэрыялы па справе гібелі велагоншчыцы, чэмпіёнкі свету З. Стагурскай, якую летась збіла на джыпе жыхарка Санкт-Пецярбурга.

***Орша.*** Малады супрацоўнік Дэпартамента аховы Аляксей Ісаенка з рызыкай для жыцця выратаваў на вадаёме пенсіянера, які праваліўся пад лёд і ледзь не загінуў на рыбалцы.

***Расоны.*** Былая сядзіба пана Глазко стала дызайнерскім сімвалам краю і брэндам новай гандлёвай маркі "Наша, расонская", у ёй цяпер працуе Цэнтр пашакольнай работы.

***Полацк.*** У рамках нацыянальнай акцыі "Культурная сталіца-2010" цыкл выступленняў лепшых айчынных артыстаў адкрыў з вялікім поспехам канцэрт ансамбля "Песняры".

***Лёзна.*** Яшчэ да прыбыцця пажарных адразу 4 чалавек выратавалі з палаючага дома ў вёсцы Крынкі двое маладых хлопцаў, пажар узнік пры курэнні ў ложку пасля выпіўкі.

***Талачын.*** Супраць 47-гадовай дырэктара Дома культуры распачалі крымінальную справу за прысваенне сабе 12 млн. рублёў нібыта зарплаты, налічанай на падстаўных людзей.

*Служба інфармацыі "ВГ".*

## Лічба нумара

**80** ***тысяч тон*** такой будзе пробная эксперыментальная партыя нафты, згодна падпісаных дакументаў, якую у маі паставіць Венесуэла для Беларусі праз порт Адэсы на Украіне для далейшай пракачкі на перапрацоўку на Мазырскі НПЗ. Гэтыя сенсацыйныя заявы аб маштабных пастаўках "чорнага золата" здзівілі многіх у свеце, і асабліва Расію, дынамікай пашырэння супрацоўніцтва аддаленых адна ад другой дзяржаў. Да канца гэтага года беларусам планавецца паставіць да 4 млн. тон нафты.

Такім чынам, калі гэта сапраўды адбудзецца, то наша краіна выканае базавае патрабаванне сваёй Канцэпцыі энергетычнай бяспекі мець сёлета каля 4,3 млн. тон альтэрнатыўнай нафты, пятую частку сваіх патрэбнасцей. Як вядома, яшчэ ў 2007 годзе здарыўся нафтавы канфлікт з Расіяй і прыйшлося нам хутка шукаць у свеце, дзе яшчэ можна купіць гэту стратэгічную сыравіну. Да 2012 года Масква не збіраецца адмяняць пошліны на нафту нават у рамках ствараемага Мытнага саюза. Але цяпер пляскаць у далоні і радавацца, што праблемы вырашыліся, Беларусі не выпадае.

Загвоздка ў тым, колькі венесуэльская нафта будзе нам каштаваць з улікам велізарных адлегласцей дастаўкі супертанкерамі. Нашы суседзі літоўцы яшчэ ў 2006 годзе купілі ў венесуэльцаў партыю нафты ў аб'ёме 100 тыс. тон, а потым адмовіліся ад далейшых закупак з-за эканамічных страт. Вядома, што па якасці венесуэльская нафта цяжкая, яе не кожны перапрацоўчы завод можа перапрацаваць на светлыя нафтапрадукты. Многія эксперты згаджаюцца, што беларусы да дыферсіфікацыі нафтавых паставак толькі падбіраюцца, а такія крокі цяпер толькі дадатковы аргумент перад Расіяй на далейшых перамовах, маўляў глядзіце, можам і без вас абысціся.

Нават калі ўлічыць, што Венесуэла пойдзе насустрач беларусам і стане прадаваць нафту па зніжаных, дэмпінгавых цэнах, то атрыманую нафту пасля перапрацоўкі на бензін на Мазырскім НПЗ цяжка будзе прадаць на экспарт. Еўрапейцы купляюць зараз у асноўным салярку беларускай вытворчасці. Застаецца спадзявацца, што паліва пойдзе на ўкраінскі рынак. Але гэта справа будучага, пакуль жа беларускія спецыялісты за акіянам на выдзеленых нам 5 радовішчах здабываюць у суткі каля 15 тысяч барэлей нафты. Каб выйсці на паказчыкі 4 млн. тон, трэба мець 80 тысяч барэлей, альбо 12 тысяч тон нафты штодзённа.

Для параўнання, на заводзе ў Мазыры зараз перапрацоўваецца прыкладна 22 тысячы тон. У любым выпадку без паставак больш якаснай расійскай нафты нам усё роўна не абысціся. За сыравіну прыйдзецца беларусам у Венесуэле пабудаваць шмат жылля, правесці там газіфікацыю гарадоў і пасёлкаў, узвесці некалькі заводаў і падзяліцца сакрэтамі абаронных сістэм дзяржавы. Бліжэйшы час пакажа, як апраўдае сябе гэты праект закупак нафты ў Венесуэле.

Аднак трэба пахваліць айчынных спецыялістаў, што так хутка ім удалося распачаць новую справу па здабычы там нафты, хоць многія ў гэта не верылі. Пакуль жа на працягу двух месяцаў трэба стварыць сумесныя прадпрыемства па пастаўках нафты, у якім 75 % акцый будзе належаць венесуэльскаму боку. Тэхнічных перашкод для яе транспарціроўкі не існуе, за выключэннем таго, што танкерамі выгадней было б дастаўляць сыравіну на нафтавыя тэрміналы портаў у Вентспілсе альбо Клайпедзе. Акрамя гэтай лацінаамерыканскай краіны, якая пастаўляе нафту і ў ЗША, беларусы шукаюць магчымасці набываць нафту і ў Лівіі, ААЭ, Іране і Азербайджане і змешваць яе ў працэсе перапрацоўкі з расійскай.

Сітуацыя не такая простая, як здаецца на першы погляд. Галоўнае, што саюзнікі РБ і РФ дагэтуль ніяк не могуць падпісаць стратэгічны дакумент Праграму больш глыбокай інтэграцыі ў паліўна-энергетычным комплексе. Для нас рускія захоўваюць ільготны рэжым паставак, бо газ мы купляем зараз па 169 USD, калі Украіна па 304 долары. За кошт паставак расійскай нафты для ўнутраных прабле Беларусь таксама выйграе каля 1,6 млрд. долараў. Будзем спадзявацца, што пастаўкі нафты з Венесуэлы будуць эфектыўнымі і дапамогуць рытмічнай працы айчыннай эканомікі ў перыяд крызісу.

# Дзісна: часы росквіту

■ **Фадзей Шымуковіч,**
*старэйшына старадаўняй часткі Дзісны.*

Пасяленне полацкіх крывічоў, узнікшае ў 10-м - пачатку 11-га стагоддзя пры зліцці рэк Заходняй Дзвіны і Дзісны. Па меркаванню некаторых гісторыкаў тут і раней пражывалі балтыйскія плямёны да прыходу славян. Мястэчка вельмі зручнае, таму што знаходзіцца ў месцы зліцця дзвух буйных рэчак.

У далейшым пасяленне развівалася ў інтарэсах Полацка, як фарпост ад набегаў крыжаносцаў на землі Полацка. Полацкімі князямі Дзісна вызвалялася ад падаткаў і подацяў. Згодна архіўных дакументаў, крыжаносцы здзяйснялі набегі на Полацк у 1324 годзе двойчы, у 1325, 1333, 1334, 1343, 1366, 1382, 1386 гадах. Калі полацкі князь Андрэй у 1373-75 гадах утрымліваў асаду Дынабурга ў 1374 годзе, крыжаносцы здзейснілі набег на Дзісну, каб адцягнуць увагу дзісенскіх ратнікаў ад асады. У 1377 годзе крыжаносцы паўтарылі набег на Дзісну. У 1500 годзе рэформай Аляксандра Ягелончыка створаны Дзісенскі павет у складзе Полацкага ваяводства і вызвалены ад усіх падаткаў і пошлін. 28 лютага 1567 года кароль Сігізмунд II Аўгуст даруе Дзісне льготы і герб "Тры вежы з муру". А 12 студзеня 1569 года Дзісна атрымоўвае Магдэбургскае права і новы герб "Ладдзя". Пасля ўзяцця Іванам Грозным у 1563 годзе Полацка, Дзісна заставалася пад уладай Стэфана Баторыя, куды перабеглі з Полацка гараджане і чыноўнікі, ратуючыся ад расійскіх войскаў. Стэфан Баторыя ўмацоўвае крэпасць і замак на паўвостраве, дае ўказанне злучыць каналам Дзвіну з рэчкай Дзісной, чым паўвостраў пераўтвараецца ў востраў і робіць замак непрыступным. І сёння гэты перакоп носіць імя Стэфана Баторыя. Рэчышча мае 40 сажняў у даўжыню і 80 сажняў у шырыню. У Дзісне Стэфан Баторый прымае прысягу ў герцага Курляндскага і дае яму інвеструтуру на княжанне. У Дзісне Стэфан Баторый робіць агляд сваім войскам перад паходам на Полацк, вызваляць яго ад войскаў Івана Грознага. У 1581 годзе ён наведвае Дзісну пасля вызвалення Полацка. У 1611 годзе кароль Сігізмунд III у час смуты ў Расіі прымае подданства ў Дзісне 230 маскоўскіх баяраў.

У 1654 годзе расійскімі войскамі пад камандаваннем Матвея Шэрэмецьева і Сямёна Страшнёва падыйшлі да Дзісны і здраднікі з гараджан адчынілі ім вароты. 16 ліпеня 1656 года рускі цар Аляксей Міхайлавіч наведаў Дзісну ў час вайсковага пахода на Рыгу. 10 красавіка 1660 года мясцовая шляхта, казакі і гараджане ноччу напалі на рускія войскі, абяззброілі іх, звязалі і перадалі войскам Вялікага княства Літоўскага. Сур'ёзна пацярпеў горад у час Паўночнай вайны Расіі са Швецыяй. У 1712 годзе ў Дзісне па наказу расійскіх улад былі прысланыя на пастой войскі, якія ўтрымоўваліся за кошт гарадской казны.

У 1700 годзе пажар амаль поўнасцю знішчыў драўляныя збудаванні ў горадзе, а ў 1712 годзе чума амаль пагалоўна выкасіла горад. З 1793 года Дзісна і павет, а ён займаў тэрыторыю Мёрскага, Шаркоўшчынскага, Глыбоцкага і Пастаўскага раёнаў у складзе Расійскай Імперыі. У 1798 годзе зацверджаны план развіцця Дзісны. У пачатку траўня 1831 года Дзісна штурмам узята паўстанцамі, штаб якіх знаходзіўся ў мястэчку Лужкі. Праз 4 дні паўстанцы з горада выбітыя расійскімі войскамі. У 1845, 1872, 1882 гадах у Дзісне бушавалі пажары, якія знішчылі драўляныя збудаванні горада.



**Дзісна. 1916 г. Кірмаш.**

У 1870, 1878, 1931, 1956 і 1957 гадах горад затаплівала паводка. Асабліва моцнай яна была ў 1931 годзе. У 1870 годзе пабудаваная праваслаўная Васкрэсенская царква з цэглы, так называемая «мураўёўка». У 1773 годзе пабудаваны цагляны касцёл. Паколькі Дзісна ляжала на шляху з варагаў у грэкі, гэтыя абставіны здаўна забяспечвалі ёй добры прыбытак. З другога боку, гэта перашкаджала развіццю прамысловасці ў горадзе, што адмоўна адбівалася ў наступныя гады, і асабліва ў цяперашні час.

Да прыкладу, у 1820 годзе на 33 стругі на Заходняй Дзвіне пагрузілі тавару на суму 228466 рублёў. У 1833 годзе – загружана 139 струг на 423836 рублёў. У 1912 годзе ранейшым шляхам адпраўлена тавараў на суму 1280755 рублёў. З 1905 года бурна развіваецца маслабойная вытворчасць. У 1905 годзе за мяжу прададзена 5000 пудоў масла, а ў 1907 годзе толькі ў Англію яго прададзена на 175000 рублёў.

У горадзе ідзе будаўніцтва. У 1901 годзе пачата будаўніцтва Дома народнай цвярозасці, на які планавалася выдаткаваць грошай у суме 9786 рублёў. У той жа час распрацаваная каштарыс на будаўніцтва памяшкання казначэйства ў суме 24140 рублёў. У 1903 годзе пабудаваная гарадская бальніца на 100 ложкамесцаў коштам 41523 рублі. У 1901 годзе пачатае будаўніцтва маста праз раку Дзісну даўжынёй 70,12 сажэняў, які закончаны ў 1907годзе. Апоры маста выкананыя з цёсанага каменя, што прыгожа і трывала. Праца камёнячосаў каштавала ў той час дорага. У 1908 годзе пабудаваная царква Маці Божай Адзігітрыі на могілках, на што затрачана 6374 рублі 46 капеек. З гэтага вынікае, што грошы ў гарадской казне былі. Што горад у гэты час бурна развіваўся, можна меркаваць і па наступных фактах. У 1893 годзе было 582 драўляных і 86 цагляных дамоў, не ўлічваючы адміністрацыйныя збудаванні. Было 163 магазіны, з іх 130 цагляных. У горадзе было 56 вуліц і завулкаў агульнай працягласцю 22,4 вярсты, з іх брукаваных 2,9 ці 12,9%. Вуліцы асвятляліся 110 керасінавымі ліхтарамі, 1 ліхтар на 102 сажэні. Дзейнічалі 2 царквы, касцёл, 7 сінагог, 4-а могілак, 5 школ, 2 бібліятэкі, зберкаса, натарыяльная кантора, дзве гасцініцы, бальніца, дзве аптэкі. Аб упадку ці росвіце любога мястэчка можна меркаваць па росту колькасці яго жыхароў.

| год | нарадзілася | памерла | прырост | усяго жыхароў |
|---|---|---|---|---|
| 1885 | 195 | 82 | 113 | 7000 (у 1884 г.) |
| 1890 | 264 | 148 | 116 | 8026 |
| 1893 | 294 | 181 | 113 | 8988 |
| 1895 | 286 | 155 | 131 | 8216 |
| 1897 | 256 | 134 | 122 | 6756 |
| 1900 | 270 | 136 | 134 | 6891 (9489*) |

С 1896 года за нястачай у горадзе працоўных месцаў людзі адыходзілі ў пошукі работы. З 1900 года ўсё пачало прыходзіць у норму і па некаторых дадзеных у Дзісне было 9489 чалавек. Яўрэі складалі 50% ад агульнай колькасці. Той дэмаграфічнай сітуацыі можа пазайздросціць любы рэгіён сёння. З 1921 года Дзісенскі павет у складзе Польшчы. Цэнтр павета пераносіцца ў мястэчка Глыбокае, аднак Дзісна ад гэтага моцна не пацярпела. Па ранейшаму бойка ішоў гандаль, асабліва льноволакном і насеннем льна. Для паляпшэння пад'езду праз лугі (цяжка праязны участак нізіны) палякі пабудавалі насыпную дарогу-дамбу вышынёй да 3 метраў. Планавалася будаўніцтва вузкакалейкі ад Шаркоўшчыны да Дзісны. Перад пачаткам вайны ў Дзісне пражывала прыкладна 9.5 тысяч жыхароў, з якіх 56% складала яўрэйскае насельніцтва. Дзісну немцы акупавалі 4 ліпеня 1941

**«Наступ: Бівак каля Дзісны, 23 ліпеня 1812 г.»**
*Малюнак К. фон Фабэр дзю Фаўра з кнігі «З Напалеонам у Расіі»*



# і заняпаду



**Дзісна. Група валанцёраў з Глыбокага і Полацка прыехала на археалагічныя раскопкі. Кірунак – на востраў, дзе стаяў замак. Справа (у камізэльцы) – археолаг Марат Клімаў.** *Фота Юрыя Калбасіча.*



**Некалькі старых камянічак у цэнтры – гэта сёння тое, што засталося ад старажытнага і некалі багатага горада Дзісны.** *Фота Ул. Скрабатуна, 2008 г.*

года. 14 ліпеня 1942 года ў Дзісне было ліквідавана яўрэйскае гета. Было расстраляна 3800 яўрэяў (дадзеныя прыблізныя). Таксама былі расстраляныя актывісты савецкай улады, партызанскія сувязныя.

4 ліпеня 1944 года горад быў вызвалены. Вызваленне пачала 159 танкавая брыгада. Аднак у горадзе стаіць стэла ў гонар 154 стралковай дывізіі, якая вызваліла Дзісну. На сённяшні дзень няма дакладнай карціны, хто і як вызваляў Дзісну і якая роля ў гэтым артылерыйскай дывізіі, якая са сваіх 152-мм гармат размалаціла цэнтр горада. І па сённяшні дзень пра гэта напамінаюць развалiны бальніцы, якая была пабудаваная ў 1903 годзе, вельмі прыгажэйшага будынка Дзісны.

Пасля вайны ў горад вярнулася каля 800 жыхароў. На аднаўленне горада сталі звазіцца не толькі адзінокія людзі, але і цэлыя сем'і. Што дзіўна – не было жылля, а былі рабочыя месцы, нейкая зарплата, і людзі ехалі ў горад. Райпрамкамбінат узначаліў дзелавы яўрэй з трохкласнай адукацыяй, нехта Лехах з карэнных дзісенцаў. У першую чаргу ў адной з сінагог была адчынена пякарня, якую ўзначаліў яўрэй – нехта Шэнкман, які пры польскай уладзе меў сваю маленькую пякарню і ведаў гэтую справу. Якасць хлеба была выдатная.

Побач з Дзісной, у 20 кіламетрах, знаходзіцца ўнікальнае, можна сказаць, адзінае ў Еўропе верхавое балота "Ельня", вельмі багатае на журавіны. Лехах арганізаваў закуп у насельніцтва журавін. Для сельскага насельніцтва гэта была адна з асноўных крыніц, каб зарабіць грошы. Райпрамкамбінат нарыхтоўваў не менш сотні тон журавін. Нязначная яе частка перапрацоўвалася ў выдатнае віно і ліманад, а асноўная грузілася на станцыі Боркавічы ў вагоны і адпраўлялася на Паўднёвы Урал і Сярэднюю Азію. Другая частка на станцыі Зябкі ў вагоны і адпраўлялася ў Рыгу. Райпрамкамбінат меў добрыя грошы і закупліваў на іх неабходнае абсталяванне для адкрыцця каўбаснага цэха, цэха па перапрацоўцы гародніны, млына, сталярнага цэха, кавальні, цаглянага завода. Жыццё біла ключом.

Яшчэ адзін добры яўрэй Кункіс, былы шавец, сабраў каля сябе добрых шаўцоў і адкрыў швейную майстэрню, якая вельмі хутка набыла славу. І ў Дзісну прыязджала высокае кіраўніцтва не толькі з суседніх раёнаў, але і з Полацка, каб заказаць касцюмы і паліто. У хуткім часе гэтая майстэрня стала асновай КБА. Працавалі цырульня, фатаграфія, рамонт абутку, рамонт бытавой тэхнікі, пральная, лазня, хімчыстка, выраб калодзежных кольцаў.

Набірала моц бальніца. Вярталіся ў Дзісну такія ўрачы, як Гога, Лехах, Крыстал і іншыя. Адкрылі тэрапеўтычнае аддзяленне, хірургію, радзільнае і дзіцячае аддзяленне. На поўную магутнасць пачаў працаваць малаказавод. Цэх па перапрацоўцы гародніны вырас у самастойны кансервавы завод, прадукцыю якога ведалі ў Мурманскай вобласці і на Урале. Завезлі будаўнічы матэрыял для аднаўлення разбуранай бальніцы, развалiны якой і сёння стаяць над Дзвіной.

Гром ударыў сярод яснага сонечнага дня. У жніўні 1959 года раён ліквідавалі, яго асноўная тэрыторыя перададзена Мёрскаму раёну, а Дзісна стала горадам раённага падпарадкавання. Усе дасягненні, здабытыя вялікай працай, сталі паступова знікаць, як ранішняя раса на сонейку.

У Мёрах пабудавалі хлебазавод, а ў Дзісне зачынілі пякарню. У Мёрах пашырылі малаказавод, а ў Дзісне яго зачынілі. У Мёрах пабудавалі мясакамбінат, а ў Дзісне зачынілі каўбасны цэх. У Мёрах сталі пашыраць бальніцу, а ў Дзісне пакінулі толькі тэрапеўтычнае аддзяленне. Асноўная маса фінансавых сродкаў прызначалася для Мёраў, а тыя, якія выдзяляліся Дзісне, пад іх не давалі поўнасцю лімітаў на матэрыялы і ў лістападзе, пачатку снежня ў Дзісны іх забралі накарысць Мёраў, таму як дзісненцы не змаглі іх асвоіць.

За прайшоўшыя 50 год Мёры з вёскі пераўтварыліся ў цудоўны горад з дзесяцітысячным насельніцтвам, а Дзісна паступова, але ўпэўнена пераўтваралася ў вёску, і ўжо б была ёй, калі б побач з Дзісной не пабудавалі станцыю для перапампоўкі нафтапрадуктаў ЛПДС "Дзісна", якая для сваіх рабочых пабудавала сучасны жылы пасёлак з лазняй, дзіцячым садком і тыпавой сярэдняй школай. За прайшоўшыя 50 год за сродкі дзяржбюджэту ў Дзісне пабудавалі паліклініку, дзіцячы сад на 6 груп, спальны корпус школы-інтэрната, ашчадны банк і два жылых 18-кватэрных дамы, і тое палічылі, што для Дзісны гэта вельмі вялікая раскоша і дзве кватэры засялілі пенсіянерамі з Мёр.

Але Садом і Гамора для нас наступілі 20 год таму, калі мы пачалі разбягацца па нацыянальных кватэрах.

Парушыліся ўсялякія эканамічныя сувязі. Вытворчасць рэзка скарацілася на ўсіх узроўнях. Дзісненскае КБА, які нарыхтоўваў тару для Навапалацкага "Паліміра" і Полацкага мясакамбіната стаў незапатрабавыным і цахі зачынілі. Рэзка скараціліся заказы сталярнага цэха і піларамы. Заліхарадзіла цагляны завод - спынілася рэалізацыя прадукцыі і не было за што набываць паліва для абпальвання. Не адзін дзесятак людзей застаўся без працы. Амаль перасталі паступаць заказы швейнаму цэху КБА. Цэх зачынілі. У выніку засталася адна цырульня, больш як 40 чалавек згубілі працу.

Намаганнямі Дзісненскага старшыні сельпо Міснік Зінаіды Міхайлаўны была ў Дзісне створана стройная сетка гандлёвых кропак з 19 магазінаў. Прадаваць не было чаго і больш за палову магазінаў зачынілі. Людзі страцілі працу, а ў горадзе дадалося пустых будынкаў, якія пераўтварыліся ў развалiны і псуюць і без таго непрыглядны выгляд горада. Мясцовыя ўлады не маглі нічога зрабіць з-за адсутнасці матэрыяльных і фінансавых сродкаў, а раённыя былі занятыя добраўпарадкаваннем Мёраў. Жыхары гарадка, асабліва моладзь, паступова сталі з'язджаць з Дзісны. Прыкладна 12-13 год таму, старшынёй гарсавета, упершыню за ўсю гісторыю Дзісны, была абраная маладая, энергічная жанчына Мароз Вольга Аляксандраўна. Шмат хто з мужыкоў адносіўся да гэтага скептычна. Тут здароваму мужыку не так проста рады даць-патрэбная моцная рука, а тут – малодзенькая жанчына. Але аказалася, што маладое, не заўсёды зялёнае. Хутчэй за ўсё, у гэты крытычны для горада момант неабходна было аддаць уладу ў рукі жанчыны з нестандартным мысленнем. Вольга Аляксандраўна вырашыла, што прыгажосць і добраўпарадкаванне хоць і не панацэя ад усіх бед, але ў многім дапаможа гораду выжыць. І не памылілася. Пераканаўшы ў гэтым актывістаў, мы прыступілі да навядзення парадку, у першую чаргу на берагавой лініі нашых рэчак, якія апаясвалі горад з трох бакоў. Ліквідавалі асабістыя і калектыўныя сметнікі ў прыбярэжнай зоне і горадзе і заняліся добраўпарадкаваннем жылых дамоў і грамадскіх будынкаў. Хаця яшчэ нельга сказаць, што мы дасягнулі нейкай дасканаласці, але горад стаў больш прывабным. Шмат хто з гараджан актыўна ўключыўся ў добраўпарадкаванне. І гэта адбывалася з мінімальнымі фінансавымі выдаткамі. Але выпрабаванні лёсу на гэтым не скончыліся. Год 5-6 таму зачынілі пладова-агароднінны завод. Без працы засталіся 90 чалавек. У 2008 годзе пры Дзісненскім лясгасе зачынілі дрэваапрацоўчы цэх – гэта яшчэ дзесяткі чалавек без працы. Колькі сіл трацяць нашы выдатныя выкладчыкі з СШ, прывіваючы вучням любоў і патрыятычныя пачуцці да горада. І паспяхова, але адсутнасць працоўных месцаў прымушае людзей пакідаць горад. На сённяшні дзень самы страшны біч для горада – адток маладых людзей з горада. Калі па дадзеных перапісу 1999 года ў горадзе налічвалася каля 2500 чалавек, па папярэдніх дадзеных перапісу 2009 года засталося каля 1900 чалавек, з іх не менш за 700 пенсіянераў. 229 жылых дамоў пустыя. У іх толькі летам гаспадары прыязджаюць на дачы. За апошнія 10 год у Дзісне нараджальнасць складае 12-18 дзяцей за год. Прыйшлося зачыніць дзіцячы садок калгаса ў прыгарадзе, вёсцы Осцевічы на 2 групы, дзіцячы садок пасёлка ЛПДС на 2 групы, а ў гарадскім садку з 6 груп засталіся толькі 2. У мінулым годзе школа выпусціла больш за 70 чалавек, а ў 1-ы клас набралі 15 вучняў. Крыху паправіць наша становішча спадзяемся праз турызм. Неўгамонная наша Вольга Аляксандраўна паспяхова вядзе перамовы са шведамі, якія вельмі цікавяцца Дзісной, як адным з асноўных аб'ектаў на шляху "з варагаў у грэкі", дзе наведвальнікамі былі іх продкі. Але каб арганізаваць больш-менш нармальны турызм у горадзе пакуль няма самых элементарных аб'ектаў інфраструктуры.

Калі даць рэальную адзнаку стану горада на дадзены момант, то гэта паміраючы населены пункт, які ў спешцы пакідаюць людзі. Вось і ў гэтым годзе школу заканчваюць прыкладна 36 вучняў, якім школа прывіла любоў да роднага горада, але горад не гатовы іх прыняць, і яны будуць вымушаныя шукаць прытулак у іншым месцы, дзе яны будуць патрэбнымі. Без сур'ёзных канкрэтных крокаў па стварэнню ў горадзе стабільных працоўных месцаў з нармальнай заработнай платай, без стварэння інфраструктуры турызма старадаўні горад асуджаны на выміранне.



**Дзісна. Руіны шпіталю – некалі найпрыгажэйшага будынка горада.** *Фота Юрыя Калбасіча.*

■ А.В. Протас,
*начальнік Глыбоцкай міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і раслiннага свету.*

# ШЧУПАК ШУКАЕ АБАРОНЫ

З 1 па 31 сакавіка дзейнічае забарона на лоўлю шчупака ўсімі спосабамі і прыладамі рыбалоўства, бо ў сакавіку пачынаецца самы актыўны перыяд нерасту. Шчупак ідзе ў ручаіны, каналы, на плыткаводдзе, тым часам шматлікія грамадзяне карыстаючыся бездапаможнасцю рыбы, асабліва ў месцах, дзе вялікая плынь, шчупак адстойваецца ў ціхіх затоках, а браканьеры тут як тут. Колюць шчупака восцямі, ловяць падхватнікамі і рукамі. Злавіўшы аднаго шчупака з ікрой, яны губяць мноства лічынак, тым самым значна памяншаючы колькасць рыбы ў вадаёмах. Але няхай не думаюць браканьеры, што іх злачынныя дзеянні беспакарана сыйдуць ім з рук. Толькі ў перыяд з 25 па 28 сакавіка супрацоўнікамі Глыбоцкай міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і раслiннага свету за незаконную здабычу рыбы затрымана 14 грамадзян, якіх чакае разбіральніцтва у судзе, а вынік - значны грашовы штраф і пакрыццё прычыненай прыродзе шкоды.

Так, 25 сакавіка 2010 года на рацэ, якая ўпадае ў возера Кагальнае г. Глыбокае супрацоўнікамі міжраўінспекцыі быў затрыманы жыхар г. Глыбокае грамадзянін К., у якога канфіскаваныя восці і 3 асобіны шчупака, зараз яго чакае значны грашовы штраф і пакрыццё прычыненай шкоды ў памеры больш 300 тысяч рублёў.

27 сакавіка 2010 года на ручаіне, якая ўпадае ў раку Мнюта паблізу в. Тоўсцікі Глыбоцкага раёна супрацоўнікамі інспекцыі затрыманыя 2 мясцовых жыхары, у якіх канфіскаваны 2 восцi, здабыць шчупака яны яшчэ не паспелі. Парушальнікаў чакае вялікі штраф да 50 базавых велічынь.



Можна шмат яшчэ прыводзіць прыкладаў варварскага стаўлення да прыроды, але больш за ўсё дзівіць абыякавасць людзей. Замест дапамогі супрацоўнікам інспекцыі асобныя грамадзяне, у тым ліку і жанчыны, апавяшчаюць браканьераў пра набліжэнне інспектараў. Адна з такіх жаласлівых да браканьераў жанчын заявіла: «Гэта не ў мяне яны крадуць, няхай забіваюць хоць усё жывое ў рацэ, гэта не маё!»

Людзі, дазвольце рыбе спакойна даць новае патомства, бо ні ў каго з вас не падыміцца рука на цяжарную жанчыну, хоць рыба ці жывёла таксама жывы арганізм.

Прыведзеныя прыклады павінны паслужыць добрым урокам тым, хто яшчэ спадзяецца беспакарана губіць прыроду.

Супрацоўнікі Глыбоцкай міжраённай інспекцыі выказваюць велізарную падзяку грамадзянам, якія аказвалі дапамогу ў навядзенні парадку ў лясах і на вадаёмах.

**Тэлефоны «гарачай лініі»:** 8-02156-2-86-70, 897-23-02, 890-55-28.

## У Беларусі трэці раз з пачатку года павышаюцца рознічныя цэны на цукар-пясок

Фіксаваныя рознічныя цэны на цукар-пясок для рэалізацыі насельніцтву з 30 сакавіка павялічваюцца ў сярэднім на 5%. Такое рашэнне ўтрымліваецца ў пастанове Міністэрства эканомікі № 56 ад 23 сакавіка 2010 года.

Як паведаміла прэс-служба Мінэканомікі, згодна з дакументам рознічная цана на цукар-пясок вагавы складзе 2.590 рублёў за кілаграм, на расфасаваны ў поліэтыленавыя ці папяровыя пакеты па адным кілаграме 2.840 рублёў.

Акрамя таго, у сярэднім на 5% павышана мінімальная адпускная цана для рэалізацыі на прамысловую перапрацоўку. Як растлумачыла прэс-служба, рашэнне аб павышэнні цэн прынята «з улікам больш высокіх рознічных цэн на цукар-пясок, што складваюцца ў сумежных дзяржавах, і ў мэтах падтрымання фінансавага стану цукраперапрацоўчых арганізацый па прапанове канцэрна «Белдзяржхарчпрам». Папярэдняе павышэнне цэн на цукар адбылося 27 лютага у сярэднім на 5%, да гэтага 28 студзеня ў сярэднім на 10%.

*Марына Носава, БелаПАН.*

МНС інфармуе:

## «Выхадкі Кляксы, а служба МНС на варце»

■ Панфілка А.А.,
інспектар ІДПН Глыбоцкага РАНС капітан унутранай службы

У мэтах навучання дзяцей правілам пажарнай бяспекі і асновам бяспекі жыццядзейнасці, а таксама не дапушчэнню пажараў па прычыне дзіцячага свавольства з агнём у сакавіку ва ўстановах адукацыі «Глыбоцкі дзяржаўны яслі-сад №4» і «Падсвільская дзяржаўная агульнаадукацыйная сярэдняя школа» прайшло тэатральна-гульнявое прадстаўленне «Проделки Кляксы, а служба МЧС на страже». Спектакль быў прадстаўлены Віцебскай абласной філармоніяй і меў павучальны характар.

Дзеці разам з персанажамі (інспектар МНС і Клякса) вывучылі правілы паводзін у надзвычайных сітуацыях: пры пажары ў лесе, пры карыстанні электрапрыборамі і шмат чаго іншага.

Прадстаўленні такога характару дапамагаюць дзецям глыбока і даступна засвоіць і вывучыць правілы паводзін у розных надзвычайных сітуацыях.

**па стану на 29.03.2010**
**Віцебская вобласць:**
Пажараў – 401;
Загінула – 103 ч., (з іх дзяцей няма);
Урон – 766 400 000 руб.;
**Глыбоцкі раён:**
Пажараў – 26;
Гібель – 7 ( з іх дзяцей няма)
Урон – 43 000 000 руб.

## «Ахова птушак Бацькаўшчыны» пачала стварэнне сеткі захавальнікаў тэрыторый, важных для птушак

**Грамадская арганізацыя «Ахова птушак Бацькаўшчыны» (АПБ) пачала стварэнне сеткі захавальнікаў тэрыторый, важных для птушак.**

Як паведаміла БелаПАН каардынатар праекта па стварэнні сеткі захавальнікаў ключавых водна-балотных тэрыторый Вольга Лукшыц, захавальнікамі важных для птушак тэрыторый могуць быць мясцовыя жыхары, якія добра ведаюць гэтыя мясцы.

Яны лепш, чым спецыялісты, дасведчаныя аб лакальных экалагічных пагрозах. Мяркуецца, што пры выяўленні праблем яны будуць паведамляць аб гэтым прадстаўнікам АПБ або ў мясцовыя інспекцыі прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя. Плануецца таксама прыцягваць захавальнікаў да выканання неслкладаных прыродаахоўных мерапрыемстваў: устаноўкі інфармацыйных стэндаў, удзелу ва ўліках птушак.

Як адзначыла Лукшыц, захавальнікаў плануецца прыцягваць на тэрыторыі Налібоцкай пушчы, заказнікаў «Званец» (Драгічынскі раён Брэсцкай вобласці) і «Ельня» (Мёрскі раён Віцебскай вобласці), «Свіслач» (Бераставіцкі раён Гродзенскай вобласці), «Сэрвач» (Докшыцкі і Глыбоцкі раёны Віцебскай вобласці), сярэдняй Прыпяці (Лунінецкі раён Брэсцкай вобласці), заказнікаў «Спораўскі» (Бярозаўскі, Драгічынскі, Іванаўскі, Івацэвіцкі раёны Брэсцкай вобласці) і «Выганашчанскі» (Івацэвіцкі, Ляхавіцкі, Ганцавіцкі раёны Брэсцкай вобласці). Паводле слоў Лукшыц, на першых чатырох тэрыторыях ужо выяўлены актывісты, якія жадаюць стаць захавальнікамі, прычым у кожнай з гэтых груп больш за 10 чалавек, у тым ліку старшакласнікі.

Паводле слоў Лукшыц, для стварэння сеткі захавальнікаў АПБ праводзіць семінары і рабочыя сустрэчы з жыхарамі важных для птушак тэрыторый. Людзям тлумачаць, якія менавіта тэрыторыі важней за ўсё адсочваць, на якіх птушак звяртаць увагу. На кожнай з тэрыторый вызначаецца мясцовы лідэр, які каардынуе работу захавальнікаў. Работы на тэрыторыі Налібоцкай пушчы, «Сэрвачы» і «Ельні» праводзяцца пры падтрымцы фонду Nordic Савета міністраў Паўночных краін.

Як адзначыла спецыяліст, АПБ плануе спрыяць у атрыманні статусу грамадскага інспектара аховы прыроды для найбольш актыўных захавальнікаў.

*А. Янушэўская, БелаПАН.*



Здарэнне

## У Глыбокім «Мазда» збіла дзвюх пенсіянерак, якія вярталіся з царквы

■ Марына Паўлава

27 сакавіка ў Глыбокім здарылася ДТЗ, якое панесла жыццё 72-гадовай пенсіянеркі. Другая пажылая жанчына, яе аднагодка, з цяжкімі траўмамі шпіталявана.

Аварыя адбылася ў 19.50, паведамляе афіцыйны сайт МУС. Пенсіянеркі вярталіся з рэлігійнай службы. Узбуджана крымінальная справа. Эксперты вызначаюць, ці знаходзіўся кіроўца ў стане алкагольнага ап'янення.

# ТЭЛЕТЫДЗЕНЬ "Вольнага Глыбокага"

5 – 11 красавіка 2010 г.



## ПАНЯДЗЕЛАК, 5 красавіка



**06.00, 07.00, 08.00, 09.00, 12.00, 13.00, 14.00, 15.00, 16.00, 17.00, 18.00, 19.00, 23.55** Новости.
**06.05, 07.10, 08.15** «Доброе утро, Беларусь!».
**07.05, 08.10** Зона Х.
**07.30, 08.25, 11.50** Деловая жизнь.
**08.30** В мире моторов.
**09.05** Nota Bene.
**09.35** «ЗВЕЗДНЫЕ ТАН-ЦЫ».Мужскойсезон.
**11.00 «Не родись красивой»**
**12.10 «Анна»** (Россия).
**14.05** Женское ток-шоу
**15.15, 19.15** Новости региона.
**15.25** Культурные люди.
**15.55** Здоровье.
**16.20 «Огни большого города»** (Россия).
**17.20 «Не родись красивой»**
**18.25** Видеофильм АТН «Прости меня».
**18.50, 00.00** «Зона Х».
**19.25** «КЕНО».
**19.30** «Арена».
**19.55** «Ответный ход».
**21.00** Панорама.
**21.55** «Дети или Гении».
**22.10 «Доктор Хаус. Четвертый сезон»**
**23.10 «Герои-3»** (США).
**00.05** День спорта.



**06.00, 06.30, 07.00, 07.30, 08.00, 08.30, 09.00** Наши новости.
**06.05** «Наше утро».
**09.05** Контуры.
**10.10 «Брюс Всемогущий»**.
**11.00** Наши новости.
**11.05** Новости спорта.
**11.10** Комедии **«Брюс Всемогущий»**. Продолжение.
**12.00** «Малахов+».
**13.00** Наши новости.
**13.05** Новости спорта.
**13.10** «Понять. Простить».
**13.40** «Модный приговор».
**14.45** «Контрольная закупка».
**15.15 «Виола Таракано-ва. В мире престу-пных страстей»**.
**16.00** Наши новости.
**16.10** Новости спорта.
**16.15** «Мисс Беларусь - 2010».
**18.00** Наши новости.
**18.15** Новости спорта.
**18.20** Премьера.**«Моя прекрасная няня»**.
**19.00** Жди меня.
**20.00** Время.
**20.30** Наши новости.
**21.00** Новости спорта.
**21.05** Ток-шоу «Выбор».
**22.00 «Остаться в живых»**.
**23.00** Наши новости.
**23.15** Новости спорта.
**23.20** «Преступления века».
**23.55** Авиаслалом. Мировая серия.
**00.50 «Женаты... с детьми»**.



**01.20** Наши новости.
**01.35-01.45** Новости спорта.



**07.00** ЛАДное утро.
**08.00 «Универ»** (Россия).
**08.30** Час суда. Дела семейные.
**09.30** В этот день.
**09.35** Сериал **«Любовь как любовь»**
**10.30** Трагикомедия **«Щепотка перца»**
**12.20** «Пра мастацтва».
**12.45** Школа ремонта.
**13.40** «Белорусский акцент». Василий Завадский
**14.10** Внеклассный час.
**14.25** Бухта капитанов.
**15.05** Телебарометр.
**15.25 «Оружие»**
**16.20** Час суда. Дела семейные.
**17.25** Простые упражнения
**18.00** Сериал **«Любовь как любовь»**
**19.05 «Люди Шпака»**
**20.05** Белорусское времечко.
**21.20** Калыханка.
**21.35 «Универ»** (Россия).
**22.10** Футбол. Чемпионат Англии. Обзор тура.
**23.05** Хоккей. Формула игры.
**23.35 «Оружие»**
**00.25** Тяжелая атлетика. Чемпионат Европы. День 1-й.



**06.00** «24 часа».
**06.10** «Минщина».
**06.20** «Утро.Студия хоро-шего настроения».
**07.30** «24 часа».
**07.40** «СТВ-спорт».
**07.45** «Утро.Студия хоро-шего настроения».
**08.30** «Неделя». -
**09.35** «Большой завтрак».
**10.05** «Пять историй».
**10.30** «24 часа».
**10.40** «Ангел-хранитель».
**11.40** «Званый ужин».
**12.35 «Мачеха»**. Сериал.
**13.30** «24 часа».
**13.50** «Звездный ринг». Вокальная группа «Чистый голос» против группы «Kriwi».
**15.00** «Большой город».
**15.40** «Горячий лед».
**16.05** «Культурная жизнь»
**16.30** «24 часа».
**16.50** «Добро пожаловаться».
**17.10** «Наше дело».
**17.20** «Минщина».
**17.30** «Званый ужин».
**18.30 «Мачеха»**. Сериал.
**19.30** «24 часа».
**20.00** «Столичные подробности».
**20.10** «СТВ-спорт».
**20.20** «Добрый вечер, малыш».
**20.40** ПРЕМЬЕРА! **«СТЕРВА»**.
**22.30** «24 часа».
**22.55**«Столичныйфутбол».
**23.25** «Кино»: **«ИЛЛЮЗИОНИСТ»**.



БЕЛСАТ tv BELSAT

**17:00** Аб'ектыў
**17:05** Еўропа сёння
**17:35 «Арол: крымі-нальная сага», -**
**18:35** Госць «Белсату»
**18:50** Невядомая Бела-русь: «Шанц на «Но-вае жыццё»,
**19:20** Англійская мова з Ліпі і Мэсі
**19:30 «Прыгоды ЦІўкі»**, мультсерыял
**19:40** Моўнік
**19:50** ПраСвет
**20:10** Басанож па свеце
**20:40** Рэмарка
**21:00** Аб'ектыў
**21:25 «Папіён»**
**23:50** Аб'ектыў

# Õðûñö³ÿíñê³ Âÿë³êäçåíü



**«– Хрыстос уваскрэс! – Сапраўды ўваскрэс!» Гэта прывітанне зусім хутка зноў загучыць на вуліцах. Потым хтосьці, расцалаваўшыся са знаёмымі, падорыць ім фарбаваныя яйкі і куліч, іншыя адправяцца на могілкі.**

Свята Светлага Хрыстова Уваскрэсення, Вялікдзень, – галоўная падзея года для ўсіх хрысціян і самае вялікае свята. Слова «Вялікдзень» прыйшло да нас з грэцкай мовы і азначае «пераход», «збаўненне». У гэты дзень мы святкуем збаўленне праз Хрыста Выратавальніка ўсяго чалавецтва ад рабства д'ябла і дараванне нам жыцця і вечнай асалоды. Як крыжовай Хрыстовай смерцю здзейснена наша адкупленне, так Яго Уваскрэсеннем падаравана нам вечнае жыццё.

Уваскрэсенне Хрыстова - гэта аснова і вянок нашай веры, гэта першая і самая вялікая праўда, якую пачалі прапаведваць апосталы.

Вялікдзень па сваім значэнні называецца «Святам свят».

У гэты і наступныя дні шматкроць гучаць словы велікоднага прывітання: «Хрыстос уваскрэс! – Сапраўды ўваскрэс», якімі мы вызначаем веру ва Уваскрэсенне Бога.

На Вялікдзень рыхтуецца асабліва багатая і разнастайная трапеза. У хаце кожнага верніка-хрысціяніна на святочным Велікодным стале прысутнічаюць традыцыйныя стравы, якія нясуць у сабе глыбокае сімвалічнае значэнне.

Тлумачэнне звычаю фарбаваць велікодныя яйкі ў чырвоны колер узыходзіць да даволі позняга падання, у якім гаворыцца пра зварот у хрысціянскую веру Рымскага імператара Тыверыя. Жадаючы спыніць пропаведзь Марыі Магдаліны, Тыверый заявіў, што ён хутчэй гатовы паверыць у ператварэнне белага яйка ў чырвонае, чым у магчымасць ажыўлення памерлага. Тут жа на вачах імператара адбыўся цуд - яйка стала чырвоным, сведчачы праўдзівасць хрысціянскай веры. Яйка счырванела, і гэта стала апошнім аргументам у палеміцы, якая завяршылася вадохрышчам Рымскага кесара.

Велікодны куліч на святочным стале сімвалізуе прысутнасць Божыю ў свеце і ў чалавечым жыцці. Слодыч, прыгажосць велікоднага куліча, такім чынам, выяўляюць клопат Бога пра ўсякую чалавечую істоту, Яго спачуванне, літасць, ласка да немачаў чалавечай існасці, гатовасць пачуць любую малітву, прыйсці на дапамогу апошняму грэшніку.

Гэтак жа духмянай і прыгожай з'яўляецца яшчэ адна абавязковая прыналежнасць велікоднага стала - тварожны вялікдзень, які таксама мае сваю глыбокую, укаранёную ў Святым Пісанні сімволіку.

У заходняй хрысціянскай традыцыі знак Вялікадня - заяц, які прыносіць у хату рознакаляровыя яйкі. Зайчыкаў робяць з шакаладу, марцыпанаў, цеста і дорацьдзецям.

У Італіі, Англіі, Фінляндыі, Грэцыі велікодная страва - ягня. А ў Нямеччыне - святочны кекс, выпечаны ў адмысловай форме і пасыпаны цукровай пудрай.

Са Святам Светлага Хрыстова Уваскрэсення!

# ßê ôàðáàâàöü ÿéê³

**Паколькі набліжаецца вялікае свята Вялікадня, актуальным становіцца пытанне пра афарбоўку велікодных яйкаў.**

Не ўсе ведаюць, як з дапамогай простых прыродных матэрыялаў можна атрымаць самыя розныя фонавыя колеры. Напрыклад, з дапамогай цыбульнага шалупіння можна атрымаць колеры ад светла-рудога да цёмна-карычневага, у залежнасці ад колеру шалупіння. Такім чынам, калі варыць яйкі ад 30 мін. да 1 гадзіны ў чырвоным цыбульным шалупінні, то яйкі стануць ад ярка-пунсовых да цёмна-чырвоных, а калі варыць у жоўтым шалупінні, то атрымаем бэжавы колер, насычанасць якога залежыць ад колькасці шалупін і працягласці кіпячэння.

Каб атрымаць цёмна-карычневы колер, досыць адварыць яйкі ў 250 мл кавы.

Каб атрымаць яркі ружовы колер, варта замачыць вараныя яйкі ў журавінавым ці ж бурачным соку. Жадаеце цёмны фіялетавы? Дадайце ў гарачую ваду кветкі фіялкі і



пакіньце на ноч, а калі дадаць яшчэ і трохі цытрынавага соку, то атрымаем лавандавы колер. Лавандавы можна атрымаць яшчэ прасцей: замочваем яйкі ў вінаградным соку. А для ярка-вясновага зялёнага дадайце ў сумесь для атрымання фіялетавага колеру 1 чайную лыжку соды ці адварыце яйкі са шпінатам.

А каб атрымаць пышны мармуровы малюнак, абястлушчаныя яйкі абмотваем каляровымі ніткамі ці кавалачкамі тканіны, абарочваем марляй, каб ніткі і тканіна добра трымаліся, і варыце не меней 10-20 хвілін. Малюнак гатовы!

Вельмі хораша выглядаюць яйкі з малюнкам. Вось некалькі простых прыкладаў. Каб атрымаць малюнак, перад тым як варыць, мокрыя яйкі абвальваюць у сухіх крупах (для афарбоўкі ў «крапінку» ідэальна падыдзе рыс), загортваюць у марлю ці капрон, шчыльна завязваюць. Прыгожы малюнак дапамогуць зрабіць падкладзеныя пад марлю (капрон) лісцікі розных раслін, розныя выгляды макаронных вырабаў і нават паеткі, след ад якіх выглядае вельмі арыгінальна. Яйкі варацца да 20 хвілін, затым здымаем капрон, крупу змываем пад кранам, сушым і не забываем нацерці яйкі сланечнікавым маслам.

**Некалькі карысных парад пры афарбоўцы яйкаў:**

– каб пры варэнні яйкі не лопнулі, іх варта каля гадзіны патрымаць у цяпле, пры варэнні ў ваду можна дадаць 1 сталовую лыжку солі.

– для бляску афарбаваных яйкаў выціраем іх насуха і змазваем сланечнікавым маслам.

– каб фарба не пранікала ва ўнутр, адвараем яйкі 3 хвіліны, затым дастаём і ў некаторых месцах праколваем шкарлупіну іголкай, яйкі кіпяцяцца яшчэ 1,5 хвіліны з даданнем гваздзікі ці карыцы.

# Äà ñâÿòî÷íàãà ñòàëà

## Куліч без дражджэй

Гэты куліч можна спячы, калі ў хаце няма дрожджаў ці не стае часу на падрыхтоўку дражджавога цеста. Ён смачны і арыгінальны.

**Інгрэдыенты:**

400 г пшанічнай мукі, 60 г сметанковага масла, 300 мл малака, 2 яйкі, 1 шклянка цукру, 1/2 шклянкі салодкага міндаля, 1/2 шклянкі цукатаў, 4 ст. лыжкі соку лімона,



1/2 ч. лыжкі соды, цэдра 1/2 лімона, ванілін.

**Прыгатаванне:**

Масла расцерці з жаўткамі і цукрам, паступова ўліваючы сок лімону. Дадаць муку, малако, ванілін, цэдру, здробненыя міндаль, цукаты, соду.

Бялкі ўзбіць, асцярожна злучыць з цестам, выкласці ў форму, змазаную маслам і абсыпаную сухарамі. Выпякаць у добра нагрэтай духоўцы на працягу 40-50 хвілін.

## Пасха простая

**Інгрэдыенты:**

1 кг тварагу, 1 шклянка густых слівак, 5 яечных жаўткоў, 200 г сметанковага масла, 200 г цукру, арэхі, разынкі, ванілін.

**Прыгатаванне:**

Адціснуты пад прэсам тварог працерці праз сіта, дадаць густыя сліўкі, ванілін, яечныя жаўткі, расцёртыя дабяла з цукрам і сметанковым маслам, здробненыя арэхі, разынкі. Усё змяшаць, шчыльна пакласці ў драўляную форму, зверху накрыць палатнянай сурвэткай, пакласці прэс і паставіць у холад.

## Яйкі-жэле

**Інгрэдыенты:**

8 яйкаў, 400 г незастыўшага жэле.

**Прыгатаванне:**

У яйкаў з тупога канца прарабіць адтуліну каля 1 см, а з вострага пракалоць іголкай. Выпусціць бялок і жаўток, прамыць шкарлупіну халоднай вадой.

Прыгатаваць паасоб-



ку сумесі шакаладнага, сметанковага і журавінавага жэле і, памешваючы, даць ім астыць.

Запоўніць рознакаляровымі сумесямі шкарлупіны. Пракол шкарлупіны з вострага канца замазаць мякішам.

Падрыхтаваныя яйкі паставіць у халадзільнік на ноч.

Калі жэле застыне, зняць шкарлупіны і пакладаць яйкі-жэле на страву.

## Рулет з курыцы з грыбамі

**Інгрэдыенты:**

1 курыца, 200 г свежага сала, 300-400 г баравікоў ці шампіньёнаў, 1 яйка, морква, рэпчатая цыбуля, корань пятрушкі, перац, соль.

**Прыгатаванне:**

Акуратна аддзяліць мяса разам са скурай ад костак (спачатку адразаць крылцы, зрабіць уздоўж спіны надрэз і, пачынаючы са спіны, акуратна зняць мяса).

Грыбы і нарэзанае кавалачкамі сала абсмажыць, астудзіць і прапусціць праз мясарубку. Дадаць сырое яйка, перац, соль і перамяшаць.

Мяса курыцы пакласці скурай уніз, пасаліць, паперчыць, выкласці грыбную масу, згарнуць рулетам, загарнуць у марлю і перавязаць шпагатам.

З костак курыцы, цыбулі і карэнняў зварыць булён, працадзіць, пакласці ў яго рулет і варыць да гатоўнасці (1 - 1,5 гадзіны). На гатовы рулет пакласці прэс і паставіць на 3 гадзіны ў халоднае месца.

Пры падачы наразаць тонкімі лустачкамі.

## Салата «Неспадзеўка»

**Інгрэдыенты:**

200 г варанай курыцы, 1 салёны агурок, 1 морква, 2 цыбуліны, 100 г салёных грыбоў, 3 яйкі, 2 ст. лыжкі ачышчаных грэцкіх арэхаў, 2 ст. лыжкі алею, 150-200 г маянэза, соль, зеляніна.

**Прыгатаванне:**

Мякаць курыцы, агурок і звараныя ўкрутую



яйкі наразаць тонкай саломкай.

Моркву і цыбулю нашаткаваць і спасераваць на алеі. Салёныя грыбы прамыць, нарэзаць саломкай і таксама спасераваць. Грэцкія арэхі растаўчы. Усе прадукты злучыць, пасаліць па густу, запраўць часткай маянэза і выкласці горкай у салатнік. Паліць астаткамі маянэзу і ўпрыгожыць кружочкамі варанага яйка, морквы ці агурка, зелянінай.

## Катлеты з начыннем

**Прадукты для катлет з начыннем:** 750 г цяляціны, 100 мл булёну, 50 г сала, 50 г адварнога языка, 50 г маслят, 20 мл белага віна, 15 г мукі, 1 морква, 1 цыбуліна, 1 корань пятрушкі, 1 корань салеры, 1 лімон, соль, перац.

**Для падрыхтоўкі катлет з начыннем:** мяса памыйце, разрэжце на 4 кавалкі. Кавалкі цяляціны адбіце, зрабіце ў іх надрэзы, у надрэзы ўкладзіце парэзаныя кавалачкі языка, парэзаныя кавалачкамі масляты ці баравікі, мяса пасаліце, папярчыце. На дно сатэйніка пакладайце кавалачкі сала, парэзаную кольцамі цыбулю, парэзаную кружочкамі моркву. На гародніну пакладзіце кавалачкі мяса, начыненае грыбамі і языком, злучаныя ў пучок корань салеры і пятрушкі. Заліце мяса булёнам, дадайце віно, сок лімону. Тушыце мяса на слабым агні на працягу 30 - 35 хвілін. Гатовыя катлеты выкладзіце з сатэйніка, пакінуты булён працадзіце, давядзіце да кіпення, дадайце муку, папярэдне спасераваную ў знятым з булёна тлушчы.

Пры падачы да стала катлеты паліце невялікай колькасцю соўсу, а астатнюю яго частку падайце ў соўсніку. Да мяса можаце падаць адварную бульбу, свежую гародніну і зеляніну.

## ІМЯНІНЫ

**1 красавіка**
**Пр.:** Сафіі, Івана, Інакенція.
**К.:**Гражыны, Тодара

**2 красавіка**
**Пр.:** Аляксандры, Клаўдзіі, Матроны, Праскоўі, Ульяны, Фядоссі, Віктара, Івана, Мікіты, Севасцьяна, Сяргея.
**К.:** Мальвіны, Марыі, Уладзіслава, Францішка.

**3 красавіка**
**Пр.:** Кірылы, Фамы, Фёдара, Якава.
**К.:** Ірэны, Рэнаты, Антона, Панкрата, Рышарда.

**4 красавіка**
**Пр.**:ВЯЛІКДЗЕНЬ, Васіля, Ісака.
**К.:** ВЯЛІКДЗЕНЬ, Антаніны, Антона, Бенядзікта, Вацлава, Ізыдара.

**5 красавіка**
**Пр.:** Лідзіі, Настассі, Васіля, Генадзя, Дзмітрыя.
**К.:**Вінцэнты, Ірэны, Вінцэнта, Юльяна.

**6 красавіка**
**Пр.:** Арцёма, Захара, Пятра, Сцяпана, Уладзіміра, Якава.
**К.:** Ады, Ізольды, Вільгельма, Пятра, Часлава.

**7 красавіка**
**Пр**.:ДАБРАВЕШЧАННЕ, Аляксандра, Савы, Ціхана.
**К.:**Ружы, Даната, Руфіна, Рыгора, Яна.

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| "Лежачая дверь" | ↓ | Танец из Италии | ↓ | Спутник кипятка | Истязатель | ↓ | Сплав железа с углеродом | Рыжая краска |
| Штат в США → | | ↓ | | 5 сантимов → | ↓ | | Старое название буквы "ь" | ↓ |
| Древний город в Северной Африке → | | | | | | | ↓ | |
| Алеутский остров | Армянский барабан | | Сын Адама и Евы | Губа не ... → | | | | |
| → | ↓ | | ↓ | Ян и ... | | | | Вулкан на Курилах |
| "Ты, я, он, ... - вместе целая страна" → | | | | Хвойное дерево | | Точка небесной сферы | Женское имя | ↓ |
| Наука об ушных болезнях | | | | ↓ | | ↓ | ↓ | |
| → | | | | | Самолет Туполева → | | | |
| Жаргон | Приток Дуная | | Комариный ... | | "Ни ... без строчки" | | | |
| Обманщик | ↓ | | ↓ | | Друг Винни-Пуха → | | | Персонаж пьесы Шекспира "Отелло" |
| Дерево рода ива | | | | | | | Сотка земли | ↓ |
| Мушкетер | | В ... не дуть → | | | Кобра из сказки Киплинга → | | ↓ | |
| → | | | | Часть суток → | | | | |

**Ответы на сканворд №12**

**По горизонтали:** "Хванчкара". Авантюрист. Алиби. Ибис. Удача. Лат. Урду. Телль. Узор. Персик. Гердт. Ук. Дар. "Тайд". Овал. Инок. Кап. Ольга. **По вертикали:** Враки. Нитрид. Кирпич. Росси. Каламбур. Бутуз. Балл. Сеть. Антре. Ални. Дубрава. Опт. Рутил. Скань. Кадка. Едок. Драп. Йог.

## ГАРАСКОП
### на новы тыдзень

**АВЕН.** Надыходзячы тыдзень добра гармануе з пагоднымі зменамі за акном. Жыццё патрабуе і ад вас змен! Наладзьцеся на лепшае і падумайце, чаго вы дасягнулі і што яшчэ жадаеце зрабіць у жыцці. Выдатны настрой дапаможа справіцца з цяжкасцямі. Аднак сказаць, што цяжкасцяў будзе шмат, нельга. Бліжэй да сярэдзіны тыдня таемнае стане відавочным: адкрыюцца дэталі аднаой важнай для вас справы. Найбліжэйшыя сваякі прымуць непасрэдны ўдзел у вашым лёсе, дапамогуць там, дзе вы не станеце спраўляцца. Другая палова тыдня будзе больш прысвечана працы. Затое ў выхадныя можна дазволіць сабе пацешыцца: адправіцца ў месца, куды ўжо даўно хацелася схадзіць.

**ЦЯЛЕЦ.** Цяляты на гэтым тыдні будуць зусім захапляльныя: пачнуць выпраменьваць такое абаянне, што працілеглы пол гэта без увагі не пакіне. Цяляты наогул прыкметныя, а на гэтым тыдні - асабліва! Вас запросяць у госці, ваша меркаванне будзе мець вагу, выпусціць такі момант – проста марнатраўна. Таму, не саромейцеся, калі з'явіцца магчымасць палепшыць матэрыяльнае становішча. Гэта пойдзе на карысць і вам, і каханаму чалавеку.

**БЛІЗНЯТЫ.** Новы тыдзень прадвесціць Блізнятам поспех у справах. У пачатку тыдня паказаны паход да стыліста ці ў цырульню, пара падрыхтаваць галаву да прыходу вясны. Сярэдзіна - дні, удалыя для кар'ернага росту, у гэтыя дні лепш за ўсё ацэньваць магчымасці свайго кашалька і складаць план на будучыню. У другой палове тыдня чакаюцца паходы па крамах і куплі: лепш за ўсё адразу вызначыцца, што вы жадаеце купіць, у адваротным выпадку існуе рызыка неабгрунтаваных марнаванняў.

**РАК.** Разуменне і суперажыванне - ваш канёк на новым тыдні. Толькі пабываўшы ў скурцы іншага чалавека, прымерыўшы на сябе яго праблемы і спадзяванні, вы зможаце пазбегнуць канфліктных сітуацый. Памятайце, што ваша меркаванне - не адзінае. Іншыя людзі думаюць інакш, і менавіта гэта арыгінальнасць можа пайсці вам на карысць, калі да яе з правільнага боку падысці. Каханне на новым тыдні не прымусіць сябе доўга чакаць. Над вамі парыць анёл кахання, дайце волю сэрцу – хай напоўніцца энергіяй шчасця.

**ЛЕЎ.** Першыя дні тыдня стануць удалымі для Львоў. Настаў час пацешыць сябе падарункамі - вы іх заслужылі. Ды і блізкія стануць падтрымліваць у вас добры настрой. У сярэдзіне тыдня адбудуцца паездкі ў цікавыя месцы. Магчыма нечаканая сустрэча з даўнім знаёмым. Выхадныя лепш правесці ў крузе сям'і, падрыхтаваць хату да прыходу вясны, абгаварыць з блізкімі падрабязнасці пераўтварэнняў у кватэры.

**ПАННА.** Тыдзень будзе спрыяць азарэнням, адкрыццям, адважным ідэям. Аднак выпадковыя падзеі могуць шмат змяняць. Гэта значыць, ідэй будзе шмат, але да фінішу дойдуць толькі некаторыя з іх. Варта выявіць цярпенне і дзейнічаць павольна, але дакладна. Пакладзіцеся на інтуіцыю, даручыцеся ёй. Панаглядайце за сітуацыяй як бы з боку. У другой палове тыдня рэкамендуюцца сустрэчы і вечарынкі. Паслабцеся і адпачніце ад працы.

**ШАЛІ.** Шалі славяцца сваёй ураўнаважанасцю і практычнасцю. Усе гэтыя якасці вы адважна можаце дэманстраваць на новым тыдні. З іншага боку, занадта перагінаць палку таксама не варта. Тое, што на гэтым тыдні страціцца, будзе вельмі складана вярнуць. Беражыце сяброўскія адносіны. Натуры творчыя, якія тонка адчуваюць, якімі Шалі з'яўляюцца, змогуць выявіць сябе ў поўнай меры. Займіцеся ўласнай знешнасцю, пасачыце за сілкаваннем, бо трэба пачынаць рыхтавацца да прыходу вясны і набываць шыкоўны знешні выгляд.

**СКАРПІЁН.** Паспрабуйце не губляць часу і прама з пачатку тыдня прымайцеся за справы. Вялікая верагоднасць, што справы завершацца ўдала. Не разгубіце поспех, скарыстайцеся становішчам, якое склалася. Дарэчы, калі вы вырашыце перакласці ўласныя абавязкі на плечы іншага, можа так здарыцца, што не вам, а яму вельмі буйна павязе ў кар'еры. Калі вырашыце заваяваць распалажэнне чалавека, які цікавіць вас, памятайце, што пачуццё можна абудзіць, калі абудзіць фізічную цягу.

**СТРАЛЕЦ.** Выдатны тыдзень падорыць Стральцам выдатны, рамантычны настрой. Будзе крыўдна, калі ён перашкодзіць працы, бо цяпер самы час зрабіць кар'ерны рывок. Трэба толькі паспрабаваць, і поспех не прымусіць сябе доўга чакаць. Другую палову тыдня можа сапсаваць нязгодлівасць прадстаўнікоў знака і іх жаданне рабіць шмат чаго па-свойму. Вынік - сварка з чалавекам, меркаванне якога здаецца занадта важным.

**КАЗЯРОГ.** Прыйдзецца шмат працаваць на ўласны імідж. Знешні выгляд - гэта тое, без чаго ў наш час вялікіх грошаў не зарабіць. Наведайце стыліста, які падбярэ вам найлепшы варыянт прычоскі і макіяжа. Пара падумаць і пра вясновыя ўборы. А вось з вялікім прыбыткам пакуль яшчэ прыйдзецца пачакаць. У першай палове тыдня не давайце грошай у абавязак і не пазычайце самі. Увесь тыдзень будзьце ўважлівей да каханага чалавека.

**ВАДАЛЕЙ.** Тыдзень пачнецца сумятліва. Справы, якія зваліліся вам як з неба, не дазволяць вольна ўздыхнуць. Магчыма, бліжэй да сярэдзіны тыдня спатрэбіцца паездка. Звярніце свой позірк на людзей, якія дамагаюцца вашай увагі. Дзелавыя знаёмствы павінны плыўна перайсці ў перыяд заключэння пагадненняў, інакш ужо да пятніцы поспех можа выслізнуць з рук. У выхадныя абмяжуйце зносіны, ёсць верагоднасць стаць каталізатарам канфлікту.

**РЫБЫ.** Стараннасць і стараннасць - лепшыя сябры Рыбак на новым тыдні. Аднак не ўсім прадстаўнікам знака атрымаецца такім чынам вырашыць свае справы, некаторыя палічаць, што праца пачакае, і з галавой акунуцца ў забавы. Трэба сказаць, што вандраванні будуць для Рыбак удалымі. Канец працоўнага тыдня можа быць багаты зманамі, будзьце асцярожней і не давярайце староннім людзям. Выхадныя лепш правесці ўдалечыні ад дома.

Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродка масавай інфармацыі № 1210, выдадзена Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь 8 лютага 2010 г.

"Вольнае Глыбокае"
Заснавальнік:
Прыватнае інфармацыйна-рэкламнае ўнітарнае прадпрыемства «Дарога на Вільню плюс»

Газета выходзіць адзін раз на тыдзень.
Аб`ём – 4 друкаваныя аркушы.
Падпісана ў друк 30 сакавіка 2010 года ў 21$^{05}$

Наклад 2000 паасобнікаў

Рэдактар : Уладзімір Іванавіч Скрабатун.
тэлефон / факс: (02156) 2 46 14;
E-mail: vglybokaye@tut.by
Адрас для допісаў:
211800 г. Глыбокае п/с 3

Замова № 1084

Меркаванні выдаўца і аўтараў могуць не супадаць. Аўтары нясуць адказнасць за дакладнасць і падбор матэрыялаў.Спасылкі на "Вольнае Глыбокае" абавязковыя.

Газета набрана і звярстана на настольна-выдавецкім комплексе рэдакцыі газеты «Вольнае Глыбокае». Надрукавана ў РУП «Перамога», Міністэрства інфармацыі РБ, 222310, г. Маладзечна, вул. Таўлая, 11. Афсетны друк.

Юрыдычны адрас: вул. Шпітальная, 44, ком.1, г. Глыбокае.

ISSN 2077-8023
9 772077 802009 10013